

# ДОБРЫ ВЕЧАР

Добрый вечер

МІНСКАЯ ГАРАДСКАЯ ГАЗЕТА

1993
ВЕРАСЕНЬ
6
Панядзелак
№ 167 (602)
Цана
10 рублёў


## СТАЛІЧНАЯ ХРОНІКА

ПА ПАВЕДАМЛЕННЯХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ «ДВ», АГЕНЦТВАЎ РІД, БЕЛАПАН, БЕЛІНФАРМ

□ ДАБРАЧЫННАСЦЬ

### «ЧЫРВОНЫ КРЫЖ — ДЗЕЦЯМ-ІНВАЛІДАМ. ЛЕТА-93»

Такую назву носіць праграма аздараўлення дзяцей-інвалідаў, ажыццяўляемая Беларускім Чырвоным Крыжам і Чырвоным Крыжам Галандыі, дакладней, яго спецыяльным фондам па працы з хворымі дзецьмі. На аздараўленне каля 250 дзяцей, хворых на дзіцячы цэрэбральны параліч, фонд выдзеліў 11 тысяч долараў ЗША. Спецыялізаванага цэнтра для аказання аздараўленчай і рэабілітацыйнай дапамогі ў рэспубліцы няма, таму вырашана правесці аздараўленне на базе абласных санаторыяў, прафілакторыяў, пансіянатаў. Трэба адзначыць, што паколькі дзеці, хворыя на ДЦП, практычна не могуць сябе абслугоўваць, іх будзе суправаджаць адзін з членаў сям'і.

Як стала вядома карэспандэнту БелаПАН, у гэтым годзе па такой праграме зможа адпачыць толькі невялікая частка хворых дзяцей — іх жа ў рэспубліцы 4 751. Але ў Таварыстве Чырвонага Крыжа не губляюць надзеі на далейшае супрацоўніцтва з замежнымі калегамі ў гэтым накірунку.

Міраслава СУЛЬДЗІНА.

### ЭКСПЕРТЫ МИРОВОГО БАНКА ОБ ЭКОЛОГИИ БЕЛАРУСИ

С 6 по 10 сентября в Академии наук состоится международная конференция «О стратегии в области охраны окружающей среды в Беларуси».

Ожидается, что на эту встречу соберутся специалисты-экологи из 40 стран ближнего и дальнего зарубежья, в том числе из Польши, США, Германии.

В рамках международной конференции предполагается обсудить доклад экспертов Мирового банка о кризисной ситуации в области окружающей среды.

Татьяна ЩЕБЕТ.

### А ВЕТЭРАНЫ І АФІЦЭРЫ СУПРАЦЬ...

**Прэзідыум Рэспубліканскага Савета арганізацыі ветэранаў, Савет Саюза афіцэраў Беларусі і Саюз ветэранаў вайны ў Афганістане накіравалі ў Прэзідыум Вярхоўнага Савета і Савет Міністраў Беларусі зварот.**

**«У апошні час, — гаворыцца ў ім, — у Рэспубліцы Беларусь актывізуюцца пэўныя нацыяналістычныя сілы, якія настойліва спрабуюць на падзеях гісторыі далёкага мінулага, што падаюцца ў скажоным, тэндэнцыйным выглядзе, распаліць сярод беларускага народа шавіністычныя настроі, выклікаць у яго пачуццё непрыязі і варожасці да рускага народа». Канкрэтнымі прыкладамі гэтага арганізацыі, якія падпісалі зварот, лічаць падрыхтоўку да святкавання Дня беларускай вайсковай славы і дзейнасць Нацыянальнага камітэта па святкаванню ў Беларусі 200–годдзя вызваленчага паўстання 1794 года.**

**У звароце выказваецца настойлівая просьба «не дапусціць развіццё падзей, якія могуць пацягнуць за сабой дэстабілізацыю абстаноўкі ў рэспубліцы», улічваючы тое, што «вышэйназваныя дзеянні нацыяналістычных сіл накіраваны на штучнае абвастрэнне адносін паміж брацкімі беларускім і рускім народамі, на разрыў усебаковых сувязей і раз'яднанне намаганняў па выхаду з крызісу...».**

### МОЛОДЕЖНЫЕ ИНИЦИАТИВЫ ПОЛУЧАЮТ ПОДДЕРЖКУ

Состоялась коллегия Комитета по делам молодежи при Совете Министров РБ.

На коллегии рассмотрены предложения общественных молодежных организаций, направленные на решение различных проблем и поддержание молодежных инициатив. Некоторые из них уже получили поддержку Комитета. В частности, это программа проведения международного студенческого турнира по гандболу с 20 по 25 октября. Инициатором его выступила Белорусская студенческая ассоциация физической культуры и спорта.

Решено оказать помощь в проведении в Витебской области фестиваля современной хореографии с 10 по 14 ноября. Будет удовлетворена и просьба молодежного фонда города Молодечно, касающаяся развития деятельности Центра социально-психологической помощи подросткам и молодежи. Также на коллегии была выражена готовность оказать содействие в направлении детского театра-студии «Ронд» Минского Дворца молодежи на Международный театральный фестиваль в город Базель (Швейцария). Предусматривается выделение средств из республиканского молодежного фонда для помощи молодым семьям, пострадавшим от наводнения в Брестской и Гомельской областях.

Принято положение о порядке финансирования мероприятий государственной молодежной политики на второе полугодие и примерное положение об отделах по делам молодежи на промышленных предприятиях.

Анатолий ВИТКОВСКИЙ.

### ЧЫЙ МЕТР БОЛЬШ ДАКЛАДНЫ — У КАСТРЫЧНІКУ РАЗБЯРУЦЦА МЕТРОЛАГІ

**Паспрачацца аб тым, чые вымярэнні больш дакладныя і як павінна развівацца метралагічная служба ў сучасным свеце, збяруцца восенню гэтага года метролагі Германіі і Беларусі. У беларускай сталіцы з 6 па 9 кастрычніка пройдзе першы рэспубліканскі семінар для прадстаўнікоў міністэрстваў, ведамстваў, кіраўнікоў прадпрыемстваў, галоўных метролагаў і намеснікаў дырэктараў па якасці, на якім і адбудзецца размова аб стане і перспектывах развіцця міжнароднай метралагічнай службы.**

**Фінансаванне семінараў, якія пройдуць у Беларусі, Расіі і на Украіне, узяў на сябе федэральны ўрад Германіі. Мэтай дыялога будзе інфармаванне прадстаўнікоў метралагічных установ, дзяржорганаў, ВНУ і НДІ, а таксама прамысловасці аб механізме стварэння метралагічнай інфраструктуры на прыкладзе развіцця аналагічнай службы ў Заходняй Еўропе. У Мінску плануецца таксама абмеркаваць задачы нацыянальнай беларускай метралогіі.**

**Як паведамілі прадстаўнікі Камітэта па стандартызацыі, метралогіі і сертыфікацыі пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь, якія таксама сталі арганізатарамі семінараў, усім жадаючым прыняць удзел у іх трэба паспяшацца, паколькі заяўкі прымаюцца не пазней 10 верасня.**

**Кацярына ВЫСОЦКАЯ.**

### ЦЫРК ПАЧАЎСЯ

Чаргговы сезон адкрыўся 3 верасня ў мінскім цырку. Гледачам прапанавана новая атракцыйная праграма «Белыя тыгры». Як заўсёды, на арэне клоуны, а таксама жанглёры, акрабаты, канатаходцы. Вельмі спадабаліся дзецям і дрэсіраваныя шымпанзэ на конях, сабачкі, кошкі. Білеты на прадстаўленні каштуюць цяпер ад 150 да 350 рублёў, але, як і заўсёды, аб іх трэба паклапаціцца загадзя, каб трапіць у цырк.

### *АПЕРАЦЫЯ «БУЛЬБА»*

У мінулую пятніцу гараджане, пэўна, звярнулі ўвагу на шматлікія калоны аўтобусаў, што спачатку пустыя рухалі да навучальных устаноў, а потым запоўненыя вясёлым студэнцкім людам ехалі назад. Так, юнакі і дзяўчаты адклалі на месяц убок падручнікі і канспекты дзеля ўборкі бульбы. Як ужо стала традыцыяй у апошнія гады — справа гэтая добраахвотная. Толькі першакурснікам і самым «барадатым» студэнтам не дазваляюць далучыцца да гэтай важнай кампаніі.

### НА «63» ДАЛЕКО НЕ УЕДЕШЬ

1208 автомобилей различных марок реализовал магазин акционерного общества «Минск-Лада» за восемь месяцев текущего года.

Самым престижным авто является, конечно же, «девятка», стоящая сейчас 18 миллионов. Самой неходовой — 63-я модель (стоит 15 миллионов рублей). Как сообщила корреспонденту РИДа бухгалтер магазина Тамара Тихоновна Локтенова, порой здесь реализуется до 40 автомобилей в день. Основные покупатели машин — предприниматели.

Дмитрий ЛЮБЛИН.

□ КРИМИНАЛ

### МАШИНЫ «ПРОКЛЯТЫХ» КАПИТАЛИСТОВ — ХОРОШИЕ МАШИНЫ

Давно привлекал воров шикарный «Форд», принадлежащий бизнесмену И. Машина оставалась «ночевать» возле дома № 62 по улице Седых.

Для операции «Угон» воры выбрали утро. Их расчет был прост: утром у хозяев снижена бдительность, да и прохожие вряд ли обратят внимание на привычную возню возле автомобиля.

Выбив стекло, один из воров забрался вовнутрь. Но завести автомобиль не удалось, даже протолкав его метров 200. Как тут не похвалить «проклятых» капиталистов, умеющих делать машины, практически не поддающиеся угону.

Анатолий РОМАНОВИЧ.

### *НАДЕЖНЕЕ ЗАБОРА И ЗАМКОВ*

**Ненадежной защитой оказались забор автобусного парка и навесные замки на его складе. Воры — два молодых минчанина — легко справились с «препятствиями» и похитили 95 медных комплектов генератора. Обойти же наряд Ленинского отдела объединения «Охрана» не удалось.**

Петр МОРОЗ.

■ АФІЦЫЙНА

## ЗАЦВЕРДЖАНА ПРАГРАМА ПРЫВАТЫЗАЦЫІ

Віктар ДЗЯТЛІКОВІЧ, БелаПАН.

Давядзенне да канца 1993 года часткі раздзяржаўленай і прыватызаванай маёмасці ў агульным кошце асноўных фондаў, якія падлягаюць раздзяржаўленню, да 10 працэнтаў прадугледжвае зацверджаная Саветам Міністраў Беларусі праграма прыватызацыі дзяржаўных аб'ектаў, што знаходзяцца ў рэспубліканскай уласнасці, на 1993 год. Праграмай таксама прадугледжваецца забеспячэнне ў бягучым годзе паступлення сродкаў ад прыватызацыі ў суме 1270 мільярдаў рублёў (у цэнах на 1 студзеня 1993 года). Першачарговымі аб'ектамі прыватызацыі стануць прадпрыемствы лёгкай, лясной, дрэваапрацоўчай, цэлюлёзна-папяровай прамысловасці, доля раздзяржаўленай і прыватызаванай маёмасці ў якіх у агульным кошце асноўных фондаў павінна скласці 20 працэнтаў.

У праграме прыватызацыі ўказаны таксама асноўныя яе спосабы. Гэта, перш за ўсё, пераўтварэнне дзяржаўных прадпрыемстваў у акцыянерныя таварыствы, продаж фізічным і юрыдычным асобам аб'ектаў прыватызацыі на аўкцыёнах і па конкурсу.

Савет Міністраў рэспублікі даручыў Камітэту па кіраванню дзяржмаёмасцю на працягу месяца скласці спіс прадпрыемстваў, якія падлягаюць раздзяржаўленню ў бягучым годзе.

## КАЛЯНДАР

**Панядзелак, 6 верасня**

**СОНЦА** — 6.25 / 19.50.

**Даўжыня дня** — 13.25

**МЕСЯЦ** — апошняя квадра 8 верасня,

захад 11.50 / усход 20.53.

**ІМЯНІНЫ**

*СЁННЯ:*

**Праваслаўныя** — Арсенія, Пятра, Яўціхія.

**Каталіцкія** — Бэаты, Яўгена.

*ЗАЎТРА:*

**Праваслаўныя** — Варфаламея, Міны, Ціта.

**Каталіцкія** — Мэльхіёра, Рэгіны.



### ВОСЬ ІМ ВІЗА ДЛЯ КРУІЗУ

Амаль палова грамадзян ФРГ, якія едуць на Беларусь, суправаджаюць гуманітарны груз для нашай рэспублікі або наведваюць яе ў рамках маладзёжных абменаў. Пра гэта карэспандэнту БелаПАН паведамілі ў пасольстве Беларусі ў Боне. Так, за першыя шэсць месяцаў года Консульскім аддзелам пасольства выдадзена для паездак з такімі мэтамі 2690 віз. Гасцявых і турысцкіх віз выдадзена за гэты тэрмін 1413, службовых — 1258. А ўсяго за паўгода Беларусь наведалі звыш за 5800 грамадзян ФРГ і суседніх з Германіяй краін.

Сяргей ЛІТВІН.

■ НОВОСТИ КУЛЬТУРЫ

В ДОМЕ ЛИТЕРАТОРА в Минске открылась новая арт-галерея. Здесь проходит выставка-продажа лучших работ известных белорусских живописцев, скульпторов, резчиков. Она подготовлена совместными усилиями союзов художников, писателей, композиторов и ПЭН-центра.



НА СНИМКАХ: посетители знакомятся с экспозицией; на выставке представлены и работы художника Виктора Тихонова.

Фото Александра ТОЛОЧКО, БЕЛИНФОРМ.



■ БІРЖАВЫЯ НАВІНЫ

### МІСТЭР ДОЛАР НАБРАЎ У ВАЗЕ, А ПАНІ МАРКА ПАХУДЗЕЛА

**Стабілізацыя курса беларускага безнаяўнага рубля адносна долара ЗША, якая намецілася, зноў была непрацяглай. Вынікі валютных таргоў, што адбыліся 1 верасня на міжбанкаўскай валютнай біржы рэспублікі, сур'ёзна засмуцілі пакупнікоў амерыканскага долара — яго курс вырас на 400 пунктаў. Затое парадаваліся іх калегі, якія аддаюць перавагу нямецкай марцы, што знізілася на 100 пунктаў. У выніку курс «зайцоў» да долара склаў 3200 рублёў. А пані марка цяпер прадавалася за 1700.**

**Такім чынам, на праведзеных таргах атрыманы наступныя вынікі па валюце долара ЗША:**

**У таргах прынялі ўдзел 15 банкаў**
**першапачатковы курс — 2 800.00**
**курс таргоў — 3 200.00**
**аб'ём продажу — 2 946 000**
**першапачатковы попыт — 2 060 000**
**прапанаванне — 5 087 000**

**Вынікі таргоў па валюце нямецкай маркі:**

**У таргах прынялі ўдзел 12 банкаў**
**першапачатковы курс — 1 800.00**
**курс таргоў — 1 700.00**
**аб'ём продажу — 1 275 000**
**першапачатковы попыт — 312 000**
**прапанаванне — 1 525 000**

**Таргі па расійскай безнаяўнай валюце, як і на мінулым тыдні, не адбыліся.**

БЕЛІНФАРМ.

■ ЭТО ФАКТ

### СПЕЦКОР НЕ РАССЛЫШИТ, ТАК ПРИДУМАЕТ

Марина ЗУБОВИЧ, РИД.

Газета «Вечерний Минск» за 31 августа 1993 года наделала немало шороху среди читающего прессу студенчества, которое, естественно, решило подумать над «предложением», как пишет газета, Министерства образования в приказе «О порядке направления студентов и учащихся средних специальных учебных заведений и профессионально-технических училищ на уборку урожая 1993 года».

Внесем ясность. «Дан приказ», — пишет газета и здесь же продолжает: «...Посему будущим специалистам предлагается потрудиться на земле со 2 сентября по 2 октября. И хоть приказ — он и есть приказ, участие в сельхозработах добровольное. Санкции к увильнувшим применяться не будут...» И конечно же, доверчивые студенты в большинстве своем с чистой совестью решают отложить рюкзаки, ведь это приказы не обсуждаются, а предложения... Впрочем, понятно: ваше дело предложить — наше дело отказаться.

Так что же на самом деле, Министерство образования приказало или предложило?

Главный инспектор Министерства образования Владимир Клемято, чьим именем, кстати, обосновал свою компетентность «Вечерний Минск», на этот вопрос корреспондента РИДа ответил так: «Данная мною информация поступила к читателям искаженной. Ничего о добровольных поездках я не говорил. Приказ и в самом деле есть приказ. Ехать обязательно! Разумеется, не существует такого акта, который мог бы ущемить интересы студентов. Но отказ от этой поездки будет расцениваться как нарушение. И санкции, о которых пишет «Вечерний Минск», применяться к действительно увильнувшим студентам будут».

Так что, дорогие студенты, если кто, скажем так, опоздал без уважительных причин, — давайте-ка своим ходом. Лучше поздно, чем никогда.

■ КАНТАКТЫ — КАНТРАКТЫ

### «У ПАРЫЖ ПА СПРАВАХ, ТЭРМІНОВА...»

Мікалай КАШАРОЎСКІ, БелаПАН.

З Францыі ў Мінск паступіла 58 тон медыкаментаў. 1 верасня каштоўны груз дастаўлены двума самалётамі беларускай камерцыйнай авіякампаніі «Трансавіяэкспарт». На думку назіральнікаў агенцтва БелаПАН, у гэтай, на першы погляд, звычайнай падзеі раскрыліся не толькі перспектывы дзелавых адносін паміж Францыяй і Беларуссю, што само па сабе вельмі прыемна. Рэальна вырысоўваецца патэнцыял зноў утвораных структур.

Еўрапейскім супольніцтвам былі выдзелены сродкі для закупкі медыкаментаў для Беларусі. Конкурс фармацэўтычных фірм Захаду на рэалізацыю гэтага праекта выйграла вядомая французская фірма «С.Р.С.», якая, у сваю чаргу, аб'явіла конкурс на «перавозчыка» грузу. Сярод авіякампаній СНД прыярытэт быў аддадзены маладой беларускай авіякампаніі «Трансавіяэкспарт». Як сказаў камерцыйны саветнік пасольства Францыі ў Беларусі Бернар Дагуас, гэта авіякампанія адрозніваецца сваім магутным патэнцыялам арганізацыі работы ў адпаведнасці з міжнароднымі патрабаваннямі ІКАО.

«Трансавіяэкспарт» мае страхавы поліс аўтарытэтнай англійскай страхавой кампаніі «Лойд», што адкрывае выхад на сусветны рынак. Крылатыя грузавозы «Трансавіяэкспарту» з беларускімі экіпажамі сёння выконваюць авіяперавозкі не толькі ў СНД, але і ў Анголе, Аб'яднаных Арабскіх Эміратах.

**P.S. Пасля прыбыцця медыкаментаў у Мінск яны былі перагружаны ў аўтафургоны і накіраваны на Рэспубліканскі аптэчны склад. Аднак складскія памяшканні гэтай установы былі перапоўнены медпрэпаратамі.**

## Свежие Новости Городов СНГ

*САНКТ-ПЕТЕРБУРГ*

### «АДМИРАЛТЕЙСКАЯ» СТРОИТСЯ, АДМИРАЛТЕЙСТВО РАЗРУШАЕТСЯ

В Санкт-Петербурге не утихают дискуссии по поводу строительства новой станции метро «Адмиралтейская» на новой линии городского метрополитена.

Сторонники этого проекта утверждают, что если станция не будет построена, то возникнет чудовищных размеров перегон от Сенной площади до Васильевского острова, не имеющий аналогов в истории мирового метро. Противники же напоминают, что аналогичное строительство станции метро «Достоевская» привело к гибели несколько домов XVIII столетия. И новая станция тоже обязательно уничтожит несколько подобных зданий. Сейчас у них появились новые аргументы: в результате подземных работ на этой линии в здании Адмиралтейства образовалась глубокая трещина.

### «ВОЛКОДАВ» ПРОТИВ ВАНДАЛОВ

**Милиция петербургского пригорода Петергоф разработала операцию под кодовым названием «Волкодав». Она направлена против вандалов, периодически разбивающих в Нижнем парке (где расположены всемирно известные фонтаны) мраморные скульптуры, на восстановление которых дирекция парка ежемесячно тратит более двух миллионов рублей.**

*МОСКВА*

### МИЛИЦЕЙСКИЙ КОЛЛЕДЖ ДЛЯ ШКОЛЬНИКОВ

Первый в Российской Федерации милицейский колледж открылся в этом году в Москве. В новое учебное заведение поступают дети, окончившие шесть классов средней школы.

Кроме образовательных дисциплин, в названном колледже преподаются уголовное и гражданское право, основы криминалистики, курсы по вождению автомобиля, владению оружием и боевой стрельбе. Предполагается, что выпускники милицейского колледжа без экзаменов поступят в вузы Министерства внутренних дел и в дальнейшем будут служить в органах правоохранения и госбезопасности.

*ХАРЬКОВ*

### ХЛЕБНЫЙ БУМ

**Официальная информация о повышении цен на хлебобулочные изделия с 1 сентября этого года вызвала ажиотаж вокруг продажи этой группы товаров, передает агентство «Харьков–Новости».**

**Рыночная цена на них достигла четырех номиналов. По мнению местной администрации, панику создают сами потребители. Предыдущие случаи подобных перебоев происходили из-за проблем с транспортом или из-за отказов магазинов от этой продукции.**

*ЛЬВОВ*

### УКРАИНИСТЫ ВСЕХ СТРАН СОБРАЛИСЬ ВО ЛЬВОВЕ

Во Львове продолжается Второй международный конгресс украинистов, в котором принимает участие около 600 ученых из Китая, Японии, Австралии, Польши, Чехии и других стран. На пленарных и тематических заседаниях конгресса рассматриваются исследования по истории развития украинской нации, языку, историографии и другим гуманитарным проблемам.

■ БЛАГОТВОРИТЕЛЬНОСТЬ

# НАШ УДЕЛ — МИЛОСЕРДИЕ

Валентина ЧИЖ.

**К счастью, есть еще сегодня организации, которые находят возможность заниматься благотворительностью. Одна из них — Красный Крест. Чем занимается эта служба сейчас, кому и как помогает — рассказывает СЕМУХА Владимир Иосифович, директор Департамента медико–социальной деятельности ЦК Общества Красного Креста Беларуси.**

— На сегодняшний день в республике насчитывается примерно 120 тысяч человек, которые нуждаются в посторонней помощи и уходе. Это в первую очередь одинокие инвалиды, малообеспеченные нетрудоспособные граждане, престарелые и больные люди. Государство не в силах защитить и обеспечить их, поэтому Красный Крест берет эти функции на себя. Но ведь наши возможности не безграничны. И, к сожалению, только четвертая часть из этих 120 тысяч находится под постоянным контролем. Это связано с тем, что медицинских сестер милосердия, добровольно оказывающих помощь, в республике только 700. Да и средств не хватает. Если раньше нас финансировали Фонд мира и Общество слепых (довольно богатые организации в прошлом), то сейчас мы работаем только за счет своих средств.

**— Владимир Иосифович, кроме вашего общества существуют органы здравоохранения и социального обеспечения. Не дублируете ли вы их деятельность?**

— Конечно, сначала может так показаться. Ведь наша основная задача — оказание медико-социальной помощи на дому одиноким и больным людям. Но если органы здравоохранения занимаются только медицинским обслуживанием, а органы социального обеспечения — исключительно бытовыми услугами, то мы совмещаем эти две функции. Сестры милосердия, кроме медицинского ухода, обеспечивают нуждающихся людей продуктами, медикаментами, оплачивают коммунальные и другие услуги, сдают вещи в ремонт, химчистку, прачечную и т.д. Причем, если работники надомной службы посещают своих подопечных только два раза в неделю, то наши медсестры делают это каждый день. Красный Крест помогает людям решать и вопросы, связанные с инвалидностью, пенсионным обеспечением, устройством в дома-интернаты, устанавливает опеку и попечительство. Поэтому, думаю, деятельность нашего общества значительно шире и эффективнее.

**— Но Общество Красного Креста не ограничивается оказанием только медико–социальных услуг?**

— Да, конечно. Кроме этого, мы пропагандируем донорство и санитарно-гигиенические знания, оказываем помощь пострадавшим от чернобыльской аварии. У нас существует дозиметрическая служба, которая независимо от государственных органов проверяет продукты питания и окружающую среду. В этом нам помогает Германский Красный Крест и Международная федерация Красного Креста. Занимаемся мы и розыском людей, пропавших без вести во время второй мировой войны и поиском могил на территории Германии и Польши. И помогаем немецкой стороне в подобной работе на нашей территории.

**— Я так понимаю, одна из примет нашего времени — расширенные международные контакты — не обошла и вашу организацию?**

— Совершенно верно. И если раньше подобное сотрудничество осуществлялось исключительно через Москву, то теперь мы имеем прямой выход на зарубежные страны. И как результат этого — материальная помощь, возможность отправлять на отдых больных детей.

**— Недавно в республике случилось большое стихийное бедствие — я имею в виду наводнение. Красный Крест, слышала, как–то отреагировал...**

— Безусловно. Правительство, конечно, выделило значительные средства на ликвидацию последствий стихии. Но пошли-то эти деньги в основном на технические и мелиорационные работы. А людям как быть? На средства своей организации мы смогли купить более чем тремстам одиноким и пострадавшим в Лунинецком районе сапоги, фуфайки, постельные принадлежности. Только ведь этого мало... Правда, нам помогла еще Международная федерация Красного Креста, выделившая 25 тысяч долларов на оказание помощи пострадавшим. Для федерации это небольшая сумма, а для нас, согласитесь, она имеет значение. Ведь наш удел — милосердие — должен подпитываться сегодня, как никогда раньше, материально.

■ РАЗОРУЖЕНИЕ

# БОЕГОЛОВКИ УЕХАЛИ В РОССИЮ. ХРАНИЛИЩЕ ЕЩЕ ПОСЛУЖИТ ГОРОДУ

Первого сентября текущего года на балансе города Бобруйска появился весьма интересный объект — «Казаково». Его передали военные, причем безвозмездно. Раньше в хранилищах «авиационно-технического склада», как его называли в целях секретности, были ядерные боеголовки для самолетов, базирующихся неподалеку. Недавно весь «груз» был вывезен в Россию, и военный караул после подписания соответствующих документов сменился милицейской охраной.

Кроме уникальных хранилищ, оборудованных подъемно-транспортными средствами, системами поддержки температуры и влажности в заданном режиме, автономными источниками питания, тут еще есть котельная, боксы для техники, склад ГСМ, три артскважины, баня, клуб, хозпостройки и даже футбольное поле.

Все это работало на Советскую Армию около сорока лет. И сейчас передано городу. Как будет использовано — еще конкретно не решено. Слишком велика специфика сооружения, и нужны весьма приличные деньги для поддержания его в рабочем состоянии. Но, думается, хозяева у хранилищ будут: вскоре городские власти намерены привезти туда для ознакомления руководителей предприятий и учреждений, проявляющих интерес к комплексу «Казаково».

Василий ФЕДОСЕНКО, РИД.

Фото автора.

■ ПЫТАННЕ З КАНВЕРТА

## АСАДЗІ НАЗАД

«У прэсе апошнім часам не сціхаюць размовы вакол Беларускага згуртавання вайскоўцаў, маўляў, узяліся за стварэнне нейкіх ваенізаваных фарміраванняў з мэтай ледзьве ці не перавароту. Шчыра сказаць, простаму чалавеку цяжка разабрацца, дзе праўда, а дзе вымысел.

Дапамажыце, калі ласка. Дайце слова чалавеку, удзельніку гэтых падзей.

Ала Місуна, работніца тонкасуконнага камбіната».

Слова старшыні гарадской арганізацыі БЗВ Алесю Станкевічу.

— 20 сакавіка на ўстаноўчым сходзе гарадской арганізацыі Беларускага згуртавання вайскоўцаў была ўнесена прапанова аб дапамозе праваахоўным органам у барацьбе са злачыннасцю на вуліцах гарадоў. Прапанова была ўхвалена ўдзельнікамі сходу. Мы выйшлі з ініцыятывай на прадстаўнікоў гарвыканкама і Міністэрства ўнутраных спраў, дзе нам параілі звязацца з райвыканкамамі горада. Я сустрэўся з намеснікам старшыні Заводскага райвыканкама спадаром Мяцам, які пасля нашай размовы склікаў прадстаўнікоў мясцовай міліцыі, добраахвотнай народнай дружыны. На гэтай нарадзе нам была дадзена «зялёная» вуліца. Але, як высветлілася пасля, на сённяшні дзень дзейнічае Закон аб ДНД 1974 года, які прадугледжвае стварэнне добраахвотных народных дружын па тэрытарыяльнаму і вытворчаму прынцыпу. Згодна з ім мы і перарабілі анкету, улічыўшы заўвагі, якія былі зроблены. 13 ліпеня адбылося пасяджэнне гарадскога актыву ДНД, якое канстатавала, што такога руху як ДНД, за рэдкім выключэннем, сёння не існуе. Гаварылася і аб тым, што БЗВ мае намер аказаць дапамогу ў яго адраджэнні. Але чамусьці ініцыятыва не была ўхвалена.

У той жа дзень адбылося пасяджэнне Пракуратуры Рэспублікі Беларусь. У тэлесюжэце нацыянальнага тэлебачання намеснік генеральнага пракурора спадар Сашчэка выказаўся літаральна так: на жаль, грамадскія рухі не дапамагаюць у стварэнні ДНД. А калі мы, як грамадскі рух, прапануўваем свае паслугі ў наведзенні парадку, барацьбе са злачыннасцю, у адказ чуем: «Асадзі назад». Вось дык недарэчнасць!

Мы не імкнёмся ствараць асобныя ваенізаваныя падраздзяленні, у чым нас абвінавачваюць паважаныя ветэраны і воіны-афганцы, каб учыніць нейкі пераварот, а маем намер працаваць поплеч з міліцыяй, каб у вольны час дапамагчы ў патруляванні, іншай справе, якая па палажэнню аб ДНД дазволена.

Згодна з папраўкай да Закона «Аб статусе ваеннаслужачых» вайскоўцам забаронена займацца грамадска-палітычнай ці палітычнай дзейнасцю. Згодзен. Але ў нашай арганізацыі тыя вайскоўцы, якія былі некалі дзейснымі, звольніліся, ці, дакладней, ім дапамаглі звольніцца. Асноўную частку складаюць людзі, якія згодна з законам знаходзяцца на вайсковым уліку, але ніякіх вайсковых абавязкаў не выконваюць.

■ РЭХА ПАДЗЕІ

# ПРАГНОЗ НАДВОР'Я БУДЗЕ БОЛЬШ ДАКЛАДНЫМ

Міхаіл ВАЛЬКОЎСКІ.

Дакладнасць метэаралагічных прагнозаў часта з'яўляецца тэмай для сатырыкаў. Кароткатэрміновы ж прагноз надвор'я, што робяць метэаролагі, вельмі дакладны.

З павелічэннем тэрміну, на які даецца прагноз, верагоднасць памылкі ўзрастае. Бо ён залежыць ад вельмі вялікай колькасці даных аб працэсах, якія адначасова праходзяць ва ўсёй тоўшчы зямной атмасферы над планетай, ад марскіх плыняў і г.д. Глабальнае назіранне за кліматам, надвор'ем у 160 краінах свету каардынуе Сусветная метэаралагічная арганізацыя (СМА), членам якой з 1950 года з'яўляецца Беларусь.

У канцы жніўня з рабочым візітам Беларусь наведаў генеральны сакратар гэтай арганізацыі прафесар Обасі. Мэта візіта — знаёмства з развіццём гідраметэаралогіі ў Беларусі і вывучэнне магчымасці ўмацавання яе матэрыяльна-тэхнічнай базы па лініі Сусветнай метэаралагічнай арганізацыі і краін-донараў, яе ўдзельніц. Генеральны сакратар СМА прафесар Обасі нанёс візіт у прадстаўніцтва ААН у Беларусі і абмеркаваў з прадстаўніком ААН Мэцью Каханэ магчымасць дапамогі Беларусі па лініі спецыялізаваных арганізацый ААН. Міжнароднае супольніцтва непакоіць стан спраў з метэаралагічнымі назіраннямі на тэрыторыі былога СССР. Яны павінны праводзіцца пастаянна, бо збоі ў назіраннях немінуча адаб'юцца на дакладнасці прагнозаў Сусветнай службы надвор'я.

Складанае пытанне і з фінансавымі разлікамі паміж Беларуссю і СМА. На апошнім кангрэсе гэтай арганізацыі, які праходзіў у маі 1991 года, быў прыняты яе бюджэт. Тады яшчэ існаваў Савецкі Саюз, які аплачваў валютны ўзнос Беларусі ў СМА (Беларусь пералічвала ў Маскву рублёвае пакрыццё гэтага ўзносу). Саюз распаўся, а ў Беларусі ўтварылася завінавачанасць. Аб шляхах яе пагашэння ішла размова ў Міністэрстве замежных спраў з міністрам П.К.Краўчанкам, таксама як і аб змяншэнні ўзносу Беларусі ў гэту арганізацыю. Пытанне з запазычанасцю складанае; калі яна перавышае тры гады, краіна трапляе ў «чорны» спіс, ёй паступае значна менш інфармацыі, даных, рэгламентаў, дакументаў і г.д.

У ходзе сустрэчы прафесара Обасі з намеснікам Старшыні Савета Міністраў Беларусі І.А.Кенікам дасягнута дамоўленасць аб накіраванні ў рэспубліку на тыдзень эксперта СМА, які ацэніць патрэбнасць гідраметэаралагічнай службы Беларусі ў абсталяванні, расходных матэрыялах. Плануецца, што ён наведае раёны, пацярпеўшыя ад паводкі, дзе затоплены гідралагічныя пасты, азнаёміцца з правядзеннем назіранняў у зонах, пацярпеўшых ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС, і падтрымае просьбу Беларусі аб дапамозе ў стварэнні сеткі аўтаматызаваных станцый маніторынга (якія, акрамя метэаралагічных назіранняў, будуць весці кантроль за шкоднымі выкідамі).

У ходзе гутарак спадара Обасі з начальнікам Галоўгідрамета пры Савеце Міністраў Беларусі Ю.М.Пакумейкам (ён жа — пастаянны прадстаўнік Беларусі пры СМА) і з кіраўніком Міжнароднага савета па гідраметэаралогіі краін СНД М.А.Гольбергам дасягнута дамоўленасць аб дапамозе Беларусі расходнымі матэрыяламі, асобнымі відамі абсталявання, у стажыроўцы нашых спецыялістаў за мяжой, удзеле іх у міжнародных кангрэсах, канферэнцыях.

Адзначана, што ўсе назіранні па стандартах СМА Беларусь ажыццяўляе, але інтэнсіўнасць іх знізілася. Беларускім спецыялістам неабходна авалодваць новымі, больш дакладнымі метадамі распрацоўкі прагнозаў — лічбавымі. Гэта магчыма толькі пасля стажыроўкі ў Еўропе. (Дарэчы, прагноз па жніўеньскай паводцы на Палессі спецыялісты Галоўгідрамета далі за тры дні, а карыстаючыся лічбавымі метадамі, дакладны прагноз можна даць за 5-10 дзён).

Прафесар Обасі наведаў таксама аддзелы і службы Галоўгідрамета, пабыў на станцыі фонавага маніторынга ў Бярэзінскім запаведніку.

Будзем спадзявацца, што такое міжнароднае супрацоўніцтва дапаможа Беларусі дастойна выконваць свае абавязкі перад сусветным супольніцтвам і дасць карысць народнай гаспадарцы рэспублікі.

■ РЕСПУБЛИКА

## УМОВЫ ДЫКТУЕ КАТЭДЖ

**У аблвыканкамах рэспублікі завяршаецца работа над складаннем схем тэрытарыяльнага развіцця гарадоў з вызначэннем межаў іх паэтапнага пашырэння да 2000–2015 гадоў. Прычым, такія схемы закранаюць усе абласныя і раённыя цэнтры Беларусі.**

**Гэта звязана з новай жыллёвай канцэпцыяй, якая аддае перавагу індывідуальнаму будаўніцтву сядзібнага тыпу. Як лічаць спецыялісты будаўнічай галіны, межы беларускіх гарадоў у бліжэйшы час будуць значна пашырацца.**

**Схемы тэрытарыяльнага развіцця гарадоў павінны ўпарадкаваць адвод тэрыторый пад індывідуальнае будаўніцтва, а таксама паставіць перашкоды на шляху самавольнага ўзвядзення дамоў.**

Ірына ЛЕЎШЫНА.

## ЗНАЁМІМСЯ З... БЕЛАРУСКІМ АРХІВАМ

Супрацоўнікамі пасольства Рэспублікі Беларусь у ФРГ праведзена азнаямленчае вывучэнне «Беларускага архіва» ў Гамбургу, які быў вывезены немцамі з Вільні ў 1917 годзе. Зроблена гэта па ўзгадненні з фондам «Вяртанне», мэтамі дзейнасці якога з'яўляецца вяртанне на Беларусь шматлікіх культурных і гістарычных каштоўнасцей, што ў розныя часы былі вывезены за мяжу. Паводле звестак БелаПАН, у архіў ўваходзяць дакументы вельмі працяглага гістарычнага адрэзка — ад часоў Вялікага княства Літоўскага да XX стагоддзя. Пакуль не вызначана, будзе гаворка ісці пра вяртанне Беларусі ўсяго гэтага архіва, толькі часткі яго ці справа абмяжуецца толькі дазволам на доступ беларускіх навукоўцаў да гэтых дакументаў.

Алесь ЛІПАЙ.

## В БАНЕ БЕЗ ПЕРЕМЕН

**Из–за запущенного состояния бань в городе Горки посещать их стало небезопасным занятием.**

**Так, недавно приезжий С. после «мытья» в «академической» бане обнаружил, что вдобавок к отсутствию холодной воды у него не стало кошелька с 20 тысячами рублей. Происшествие С. не удивило: шкафы в бане не закрываются, ключ остается на столе во время отсутствия банщика.**

**В административно–хозяйственной части Академии сельского хозяйства корреспонденту РИДа сообщили, что в ближайшее время никаких перемен в «банной ситуации» не ожидается.**

Анатолий ВИТКОВСКИЙ.

## РЫНОК ХОРОШ ТОЛЬКО В РЕДАКЦИИ

Вот бы посмеялся комедийный герой Нестерка, когда бы узнал, что его именем назван еще один коммерческий магазин. Пикантность ситуации в том, что его открыла областная газета «Віцебскі рабочы», называющая себя независимой, а на деле открыто занимающая прокоммунистические позиции и известная своей нелюбовью к рынку. Тем не менее, на своих страницах ее сотрудники пишут одно, а в своей «краме», расположенной в помещении редакции, успешно торгуют мукой без талонов, обоями, консервами и даже деревообрабатывающими станками.

Владимир ШИК.

■ ПРАБЛЕМЫ ЗАНЯТАСЦІ

# ЗА ПРАЦОЎНЫМ МЕСЦАМ — НА КІРМАШ

Міхаіл ВАЛЬКОЎСКІ, «ДВ».

**Кірмаш рабочых вакансій адбудзецца 8 верасня ў Палацы (зараз — Цэнтры) культуры і адпачынку чыгуначнікаў (Чкалава, 7).**

Што зробіш: у сферы занятасці рынкавыя адносіны заявілі аб сабе ў поўны голас. Беспрацоўе ў нашым горадзе ўжо стала з'явай, з якой грамадства вымушана лічыцца і змагацца. І вось на кірмашы больш як сорак прадпрыемстваў розных форм уласнасці будуць прапаноўваць вакансіі, знаёміць з умовамі працы і сацыяльнай сферай прадпрыемства. Будуць працаваць прадстаўніцтвы ўсіх раённых цэнтраў занятасці; да паслуг зацікаўленых — электронны банк даных па свабодных працоўных месцах, па беспрацоўных. Тут можна будзе атрымаць кансультацыі юрыстаў па працоўнаму заканадаўству, арганізацыі прадпрымальніцкай дзейнасці, прафарыентацыі, па вучэбна-курсавой сетцы горада, дзе можна перавучыцца і атрымаць іншую спецыяльнасць.

Якая ж сітуацыя сёння на мінскім рынку працы?

На жаль, працягваецца зніжэнне ўзроўню занятасці, скарачаецца попыт, абвастраецца праблема працаўладкавання. Лічбы, што прадставіў гарадскі цэнтр занятасці, сведчаць аб абсалютным і адносным змяншэнні колькасці занятых у народнай гаспадарцы горада ў першай палове года (на 53,9 тысячы чалавек у параўнанні з мінулым годам).

Прычым, скарачэнне занятых у вытворчых галінах на 28,6 тыс.чалавек не суправаджалася павелічэннем занятасці ў сферы абслугоўвання. Наадварот, гэтая сфера сама скараціла 25,3 тысячы.

Зніжэнне колькасці занятых адбылося таксама ў народнай адукацыі, ахове здароў'я, сацыяльным забеспячэнні, культуры, навуцы.

Затое ўзрасла колькасць працуючых у гандлі, матэрыяльна-тэхнічным забеспячэнні, жыллёва-камунальнай гаспадарцы, банкаўскай і страхавой галінах, апараце кіравання (уключаючы органы кіравання кааператыўных і грамадскіх арганізацый, судовыя і юрыдычныя ўстановы).

За першае паўгоддзе гэтага года колькасць звольненых работнікаў перавысіла колькасць прынятых на работу на 17182 чалавекі. Прыём новых работнікаў кампенсуе выбыццё толькі на 77,4 працэнта. Гэта значыць, што змяншаецца колькасць працоўных месцаў.

Між тым, беспрацоўныя ў масе сваёй жанчыны маладога і сярэдняга ўзросту, з дыпломамі. Колькасць беспрацоўных за паўгоддзе ўзрасла на трэць і дасягнула 8371 чалавека. У верасні іх стала больш за 9 тысяч. У асноўным гэтыя рады папаўняюць скарочаныя (64 працэнты), звольненыя па так званай цякучасці (13,1 працэнта); значнае папаўненне — выпускнікі навучальных устаноў (10,2 працэнта), астатнія катэгорыі — 12,7 працэнта. Такім чынам, сярод беспрацоўных 89 працэнтаў складаюць тыя, хто згубіў працу, тыя ж, хто ўпершыню яе шукае, — 11 працэнтаў. Беспрацоўе закранула, у асноўным, кваліфікаваныя кадры. Толькі трэць беспрацоўных складаюць рабочыя, а 70 працэнтаў — служачыя. Па прафесійных прыкметах высокаадукаваныя работнікі складаюць 76 працэнтаў беспрацоўных, з сярэднім узроўнем прафесійнай падрыхтоўкі — 15 працэнтаў і малакваліфікаваныя ўсяго 9 працэнтаў беспрацоўных.

Спецыялісты — аператары, прадаўцы, слесары, мантажнікі, інжынеры, тэхнікі, настаўнікі, выкладчыкі, выхавальнікі, эканамісты і бухгалтары, матэматыкі, фізікі — шырока і часам беспасяхова прапануюць свае паслугі. У той час, як неабходны рабочыя будаўнічых прафесій, вадзіцелі, газаэлектразваршчыкі, грузчыкі, дворнікі, дарожныя рабочыя, кранаўшчыкі. Недахоп муляраў, бетоншчыкаў, маляроў вылічаецца сотнямі, як і вадзіцеляў, токараў, швачак і г.д. А вось служачых больш, чым вакансій, у дзесяць разоў. Прычым, прапаноў працоўных месцаў для аграномаў, бібліятэкараў, архітэктараў, журналістаў, заатэхнікаў, выкладчыкаў, артыстаў зусім няма. Не хапае каля 5,5 тысячы чалавек з рознымі рабочымі спецыяльнасцямі, пры гэтым не знаходзяць попыту на сваю працу амаль 6 тысяч спецыялістаў і служачых.

Шмат каму даводзіцца мяняць прафесію; колькасць накіраваных на прафесійную перападрыхтоўку ўзрасла ў 2,2 раза. Служба занятасці можа дапамагчы, на жаль, не ўсім, бо яна кантралюе толькі трэцюю частку працоўных месцаў у горадзе. Астатнія месцы пераразмяркоўваюцца на саміх прадпрыемствах, якія праводзяць сваю палітыку занятасці ў працоўных калектывах.

## У ГОНАР СВЯТА ВЫЗВАЛЕННЯ

У адпаведнасці з пастановай урада «Аб падрыхтоўцы да святкавання 50-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў» у Савеце Міністраў адбылася нарада рабочай групы па падрыхтоўцы і правядзенню мерапрыемстваў, прысвечаных 50-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

На нарадзе, якую вёў намеснік Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь М.І.Дзямчук, ён жа і старшыня рабочай групы, у якую ўваходзяць кіраўнікі міністэрстваў, ведамстваў і грамадскіх арганізацый, разгледжаны першачарговыя пытанні па падрыхтоўцы і правядзенню свята вызвалення ў рэспубліцы.

■ Служба інфармацыі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

БЕЛІНФАРМ.

■ ИЗ ГАЗЕТ

# МАО И ТЕПЕРЬ ЖИВЕЕ ВСЕХ ЖИВЫХ?

Сергей КАЛИНИН, Дмитрий ПРИВАЛОВ («Труд»).

**В Пекине практически нет очередей: ни в государственных магазинах, ни в частных лавочках, ни в кафе, ни на рынках. Вероятно, проблема очередей в Китае уже решена, во всяком случае в быту они не столь заметны. Кроме одной, которая ежедневно выстраивается на самой большой в мире площади Тяньаньмэнь. Это очередь в мавзолей — к Мао Цзэдуну.**

В тот день в Пекине стояла невыносимая жара, которая все же не поколебала решимости тысяч китайцев и многочисленных иностранных туристов собственными глазами увидеть забальзамированное тело «великого кормчего».

Под наблюдением охранников, одетых в «гражданку», очередь длиной в 1,5-2 километра медленно движется через площадь к мавзолею. У массивных входных дверей служащие умело рассекают людской поток на две части, направляя их в огромный зал, где царят тишина, сумрак и прохлада. Взоры вошедших устремляются на высеченное из белоснежного мрамора изваяние сидящего в кресле Мао. Основание памятника обставлено цветами и причудливыми растениями. За его спиной на стене висит гигантского размера шелковое панно, на котором изображен прекрасный горный пейзаж в изумрудных тонах.

Зоркий охранник неожиданно подходит к молодой женщине, в руках у которой небольшая сумочка, и просит пройти ее в камеру хранения. Остальные шаг за шагом достигают заветной цели. Посреди просторной светлой комнаты на постаменте из черного мрамора возвышается саркофаг из горного хрусталя. В нем и покоится тело председателя.

Мао Цзэдун лежит под пурпурным полотнищем с пролетарской символикой — крупно вышитыми серпом и молотом. У его изголовья — почетный караул. Здесь не дают не только остановиться хотя бы на миг, но даже замедлить шаг. Напротив, жестами показывают, что надо двигаться быстрее, не задерживаться. Разумеется, разглядеть и запомнить лицо Мао невозможно. На свидание с ним отпущено лишь несколько секунд...

**Строительные работы по сооружению мавзолея Мао Цзэдуна — второго в стране (есть мавзолей основателя Китайской республики Сунь Ятсена в Нанкине) — завершились 24 мая 1977 года — спустя восемь с половиной месяцев со дня его кончины. Общая площадь — 28 тысяч квадратных метров. В первые 7 лет своего существования мавзолей посещали почти исключительно партийно–государственные чиновники и военные. Открыт для всеобщего обозрения в мае 1984 года. Ежедневное число посетителей — 40–50 тысяч человек. Штат сотрудников Дома памяти председателя Мао, как дословно именуется по–китайски мавзолей, состоит из 200 с лишним человек. На его содержание государство до недавнего времени выделяло более двух миллионов юаней в год (приблизительно 200.000 долларов).**

Находясь в мавзолее, совсем не ощущаешь траурной атмосферы, великого вселенского горя. Скорее сюда приходят просто посмотреть на бывшего вождя, как на музейный экспонат, и не более того. К скорби и печали здесь никого не принуждают. В этом убеждаешься, когда входишь в следующий зал, где торгуют всевозможными сувенирами: значками с ликами Мао, его цитатниками, открытками, палочками для еды и чайными ложечками с изображением мавзолея. В этом году таких сувениров как никогда много, ведь в декабре готовятся отметить знаменательную дату — 100 лет со дня рождения «великого кормчего».

Личность покойного председателя Мао, как, наверное, и любого другого выдающегося исторического деятеля, нельзя оценивать однозначно. В «Решении по некоторым вопросам истории КПК», принятом ЦК Компартии Китая еще в 1981 году, дана взвешенная и достаточно непредвзятая оценка деятельности Мао Цзэдуна на посту руководителя партии и государства — «70 процентов — заслуги, 30 процентов — недостатки».

Иностранных туристов особенно удивляет небольшая ярмарка на территории мавзолея. Здесь по государственным ценам можно приобрести легкую одежду, посуду, украшения, игрушки, выпить минеральной воды или съесть мороженого. Все это может показаться кощунством, особенно нам, с детских лет воспитанным в безмерной любви к своему вождю — Ленину, имя которого было настолько святым, что страшно было представить себе торговлю сувенирами и посудой у самых стен его мавзолея. Но мы — это мы, а у китайцев — другие правила.

Все же любопытство взяло верх, и мы решили узнать мнение тех, кто только что вышел вместе с нами из мавзолея. Всем им задавали одни и те же вопросы: «Как вы относитесь к Мао Цзэдуну? Закроют ли мавзолей?». Большинство отвечало приблизительно так: «Мао — жил, Мао — жив, Мао — будет жить». Трое из опрошенных были оригинальнее в ответах, правда, среди них оказался один француз.

**Жан КОРНЕЛЬ, турист:**

**— Франция — демократическая страна, и для меня, ее гражданина, понятия «демократия» и «маоизм» несовместимы. У нас свои ценности, у них — свои. Китай — развивающееся азиатское государство, со своими традициями, историей, жизненной философией. Пусть они живут так, как живут, любят тех вождей и правителей, которые им нравятся. Это их дело. А закрывать мавзолей нельзя ни в коем случае. Все должно остаться так, как есть, историю не перепишешь.**

**Гао ЧЖИЛУ, предприниматель из провинции Шаньдун:**

**— Мао — великий человек. Он 30 лет правил Китаем. При нем стали строить заводы и фабрики. Простые люди его уважали и побаивались. Конечно, в годы «культурной революции» натворили много беды, но, как говорится, кто ничего не делает, тот не ошибается. А закрывать мавзолей не надо, народ этого не поймет.**

**Люй ЦЗИНЬШЭН, преподаватель из города Чэнду:**

**— Я в школе учил русский язык, сейчас интересуюсь тем, что происходит в бывшем СССР. Мне кажется, что вы увлеклись очернительством своей истории. Нельзя же до такой степени не уважать себя и своих предков. По–моему, вы много говорите и мало делаете. Я все это к тому, что Мао Цзэдун, конечно, принес стране немало бед, при нем ни о какой свободе слова, демократии, политике открытости, которая сейчас проводится, не могло быть и речи. И у меня в 70–е годы от хунвэйбинов пострадали родственники. Что было, то было. Но ведь он управлял огромной державой, его поддерживал народ, его имя не сходило с уст нескольких поколений. Он достоин почтения. Из уважения к предкам и в назидание потомкам мавзолей должен остаться.**

**К слову, драматические события весны — начала лета 1989 года, основное действие которых проходило в непосредственной близости от усыпальницы Мао, не затронули ее никоим образом. Никто из студентов, разбивших тогда на площади Тяньаньмэнь палаточный городок, не сделал попыток ворваться в мавзолей, где покоится тело человека, которого многие из них считали главным виновником полной драматизма современной истории Китая.**

Так думают сами китайцы о своем бывшем вожде. Ни мавзолей, ни тот, кто в нем находится, не мешает им двигаться вперед, созидать, смотреть с оптимизмом в будущее.

